# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 9 (172)
верасень 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"






Павел Баркоўскі і Алена Макоўская

# ЯК ЗВЯЗАНЫЯ ВЫШЫВАНКА, ДЭМАКРАТЫЯ, ЭКАНОМІКА?

Пытанне нацыянальнай ідэнтычнасці ў сучасным беларускім грамадстве мае філасофскі характар: мы не можам адназначна сфармуляваць, маем мы ўжо гатовую ідэнтычнасць ці яшчэ патрэбны доўгі шлях да Беларусі.

У межах "Тыдня беларускага мыслення", які прайшоў у Мінску, кампанія "Будзьма беларусамі!" супольна з Лятучым універсітэтам зладзіла дыскусію на тэму "Сучасная нацыянальная ідэнтычнасць: праблемы і выклікі", скарыстаўшыся нагодай, каб паразважаць пра вышыванкавы бум, дэмакратычныя інстытуты і будучыню краіны.

Важнасць тэмаў дыскусіі адзначыла Алена Макоўская, кіраўнік "Бацькаўшчыны" і каардынатарка кампаніі "Будзьма беларусамі!": "У 2008 годзе, калі мы распачыналі дзейнасць кампаніі, сам тэрмін "нацыянальная ідэнтычнасць" практычна не ўжываўся. Без залішняй сціпласці скажу, што менавіта кампанія здолела вынесці гэты тэрмін у шырокі грамадскі дыскурс, прадэманстраваць важнасць ідэнтычнасці. І сёння мы ставім дзве тэмы ў парадак дня. Першая, прапанаваная Універсітэтам, звязаная з вонкавай праявай ідэнтычнасці: у Беларусі адбылося перарыванне традыцый, і сённяшняя мода на вышыванку – гэта пачатак вяртання да сваіх каранёў ці даніна модзе? Другая тэма – актуалізаваная нашай кампаніяй: ці ўвогуле магчыма дэмакратызацыя нашай краіны без нацыянальнай ідэнтычнасці, пабудаванай на беларускай культуры?"

## "Ананімны дэмарш" і бум вышыванкі

"Традыцыйная беларуская культура знікла назаўжды разам са сваімі носьбітамі, са сваёй сістэмай кодаў і знакаў, якія былі толькі часткова зафіксаваныя, а пасля канчаткова дэфармаваныя савецкай уладай, – мяркуе культуролаг Сяргей Харэўскі. – Адпаведнікі нашых вышыванак існуюць па ўсім свеце ў выглядзе недарагіх сувеніраў. "Драўляную Беларусь" мы страцілі амаль назаўжды, бо не маем нават адпаведнай музейнай сістэмы для яе захавання. З боку дзяржавы ўсё, што робіцца "пад" традыцыйную культуру, выглядае як прафанацыя. У вышыванкавага буму, які мы назіраем, ёсць выразныя карані – падзеі ва Украіне, а таксама ў Расіі. Любоў да адзення з арнаментам – з той самай скарбонкі, што і 23% жыхароў Беларусі, якія, паводле перапісу, назвалі беларускую мову сваёй паўсядзённай. Мы маем ананімны дэмарш супраць дзяржаўнай культурнай палітыкі".

"Не думаю, што нацыянальная ідэнтычнасць прывязаная да "драўлянай", патрыярхальнай Беларусі, – кажа выдавец, галоўны рэдактар часопіса "Arche" Валер Булгакаў. – Першыя беларускія дзеячы, якія займаюцца ідэнтычнасцю, з'яўляюцца ў часы індустрыялізацыі, у XIX стагоддзі. Беларусь тады ператвараецца ў перыферыю Еўропы, адбываецца адміранне сельскай культуры. Падставаў ганарыцца вышыванкай не так і шмат. Можна ўспрымаць гэта як праяву свядомасці, але семантычна ўсё нашмат складаней: арнаменталістыка жыўцом узятая са сцяга, прынятага пасля рэферэндуму. Атрымліваецца пэўная маніфестацыя, але ў той жа час "дазволеная".

**Працяг на старонцы 2.**

**навіны “Будзьма!”**

# ЯК ЗВЯЗАНЫЯ ВЫШЫВАНКА, ДЭМАКРАТЫЯ, ЭКАНОМІКА?

**Працяг са старонкі 1.**

“Трэба правесці дакладную мяжу паміж этнічным і нацыянальным, – пагаджаецца гісторык і публіцыст Алесь Белы. – Беларусь спазнілася ў фармаванні калектыўнага абстрактнага мыслення, былі хвалі 1980–90-х гадоў, цяпер ёсць ідэалагічны крызіс, і мы назіраем такі сабе кампрамісны варыянт. У заняпадзе кнігавыдавецтва, прамысловасць, ёсць рэпрэсіўныя моманты ў дачыненні да пісьменнікаў, але ёсць і такі “дазвол на вышыванку”.

“Трэба ўлічваць, што кожны чалавек, які надзеў вышыванку, мае адназначныя каштоўнасці, – пярэчыць Мікіта Броўка, кіраўнік праекта Symbal.by. – Хто не прызнае Беларусь асобнай дзяржавай, не прымае беларускую мову, той вышыванкі не надзене”.

“Вышыванка ў тым ліку і раскалвае, – мяркуе даследчык нацыянальнай ідэнтычнасці Аляксей Ластоўскі. – Адны лічаць сябе беларусамі па нацыянальных і палітычных прыкметах, а іншыя – надзяваючы вышыванку. Бум вышыванкі – гэта хутчэй як феномен кніжнай культуры, з’яўленне новых гарадскіх плямёнаў, людзі аб’ядноўваюцца пры дапамозе сімвалаў для супольнай жыццядзейнасці. З’яўленне такой маладзевай культуры выклікае антыпатыю сярод тых, хто выхоўваўся раней”.

“Андрэй Хадановіч пераказваў дыялог, пачуты ў трамваі: дзяўчаты абмяркоўвалі хлопца, у якога адна з іх спыталася, ці мае той вышыванку, а ў яго на саколцы быў герб “Пагоня”, які дзяўчына не змагла згадаць як называецца, – гаворыць доктар сакральнай тэалогіі Ірына Дубянецкая. – Для яе было важна, каб хлопец быў “далучаны да вышыванкі”, але разумення, што гэта такое, яна не мае. А пазначэнне свету арнаментамі – традыцыя, якая ідзе ажно з неаліту, і гэта ледзь не адзіная традыцыя, якая не перарывалася”.

Павел Баркоўскі, мадэратар дыскусіі, зазначае, што паводле маркетынгавых даследаванняў MASMI, тавары, якія маюць элементы арнаменту ў афармленні, больш цікавыя пакупнікам, яны называюць іх “патрыятычнымі, сучаснымі”. Арнамент робіцца часткай гарадской. Вышыванка сёння – гэта спосаб рэпрэзентацыі сябе ў прасторы.

“Было б дзіўна, калі б рэакцыя была іншай, – кажа Валер Булгакаў. – Беларусы пачынаюць усведамляць, што жывуць не ў СССР, не ў Расійскай імперыі, адбываецца сувязь атрыбутаў нацыянальнай культуры”.

“З ліпеня моладзь падчас салюту крычыць: “Беларусь!” – кажа спадар Ластоўскі. – Гэта феномен таго ж шэрагу, што і вышыванкі, – еднасць праз найпрасцейшыя сродкі. А ці будзе гэта мець глыбокае значэнне?”.

## Дэмакратыя і нацыянальная ідэнтычнасць, ці ёсць сувязь?

“Асноўнае пытанне цяпер – ці ёсць у нас сфармаваная нацыянальная ідэнтычнасць, – кажа Валер Булгакаў. – Мадэль разумення Беларусі патрабуе пераасэнсавання згодна з рэаліямі. Беларуская мова – гэта субкультура. Цяпер жа ўлады транслююць думку, што Беларусь мусіць быць незалежнай краінай, што пярэчыць іх жа тэзам пачатку 1990-х гадоў”.

“Уявіце сабе Францыю без Мальера, Паскаля, Бальзака, – разважае Алесь Белы. – У нас няма інстытута надзейнай трансляцыі сімвалічнага поля. Цалкам разбураны нацыянальны кінематограф. Нам не стае інтэлектуальных маркёраў прыналежнасці да той ці іншай культуры, я на сённяшнюю сітуацыю гляджу досыць песімістычна”.

“У ВКЛ у свой час была вялікая адметнасць – мультырэлігійнасць. Была агульная мова, але ў культурным полі прысутнічалі і іншыя мовы, – кажа Ірына Дубянецкая. – Мы незваротна страцілі іншамоўную грамадскую супольнасць, якая адыгрывала вялікую ролю ў фармаванні ідэнтычнасці. Страцілі ідэю краёвасці, “зямля гэта твая, кім ты ні ёсць, ты чалавек гэтай зямлі”. Нам навязаны дзяржаўны білінгвізм, але гэта, можна сказаць, працілегласць, бо сапраўдныя білінгвы ў краіне – гэта беларускамоўныя”.

“Пытанне ідэнтычнасці расслойваецца, – працягвае Валер Булгакаў. – Мысляры прыдумваюць нацыю, бачаць яе сучаснай і адметнай, у той час як маса проста мае што мае. Герб “Пагоня” – дык герб “Пагоня”. Будзе прыняты – будзем лічыць сваім. Усе нацыі жылі і развіваліся. Нацыя сфармаваная, у чым яе контуры – іншае пытанне. Шмат хто лічыць сябе беларусам толькі таму, што жыве на тэрыторыі Беларусі, выключна такая сабе тэрытарыяльная ідэнтычнасць. І, груба кажучы, вы надзелі вышымайку – паднялі ўзровень”.

“Сацыёлагі кажуць пра панаванне “банальнага нацыяналізму” –ператварэнне ідэнтычнасці ў руціну, – разважае Аляксей Ластоўскі. – Вялікае значэнне набывае ў такіх выпадках спорт, які дае яшчэ адну магчымасць належаць да нейкай нацыі”.

“Паляванне на вядзьмарак у Беларусі заўжды адбывалася ў самы несвабодны час. – працягвае спадар Булгакаў. – У пачатку 1990-х нацыяналісты былі ў складзе Вярхоўнага савета, і ўзровень свабодаў нічым не адрозніваўся ад узроўню ў суседніх краінах. Калі здарылася прымусовае выцісканне – Беларусь спынілася ў развіцці там, дзе яна цяпер. Нацыяналізм можна развіваць у розных кірунках, менавіта ён ёсць таранам, які дазваляе разбураць аўтакратычныя рэжымы”.

“Дэмакратыя – гэта вынік развіцця грамадства, моцнай эканомікі, – кажа Мікіта Броўка. – Беларусь, можа стацца, будзе трапляць у культурнае поле Расіі, дзе не будзе ні моцнай эканомікі, ні дэмакратыі”.

“Беларусь мусіць прайсці праз тыя ж “школьныя класы”, што і іншыя краіны на шляху да дэмакратыі, каб быць роўнай сярод роўных. Як было з нашай краінай у часы Рэфармацыі, – кажа Ірына Дубянецкая. – У тым ліку давядзецца прайсці і стадыю нацыянальнай ідэнтычнасці”.

“Мы абмяркоўваем, – прыгожыя міфы, – кажа спадар Ластоўскі. – Дэмакратыя і дабрабыт – прыгожая думка 1960-х гадоў. Эканоміка Кітая будуецца не на дэмакратыі. Тая ж Венгрыя ставіць пад пытанне патрэбу ў ліберальна-дэмакратычным шляху развіцця. Розныя варыянты карысныя пэўны досвед, але не варта іх паўтараць як схему. Нацыяналізм і дэмакратыя маюць унутраныя супадзенні, але іншая справа – як яны карэлююць у жыцці”.

“Не трэба баяцца тэрміна “нацыяналізм”, – кажа Валер Булгакаў, – у Еўропе ён мае негатыўнае значэнне, але калі адкрываеш Оксфардскі слоўнік, там абсалютна нейтральнае значэнне, якое раскрываецца праз любоў да Радзімы. Як пісаў прафесар Герхард Зіман: “Шлях да дэмакратыі праз утварэнне нацыі, без сумневу – поўны небяспекаў, але іншых шляхоў проста няма”. Усе краіны, якія прайшлі шлях да дэмакратыі, прайшлі праз стадыю фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці. Нацыя – гэта пачуццё локця, інтэграцыя людзей, супольныя каштоўнасці. Толькі на гэтым грунце можа будавацца дэмакратыя!”

“Ёсць краіна і ёсць дзяржава, – працягвае спадарыня Дубянецкая. – Не раз у нашай гісторыі дзяржава ваявала з краінай, гэта адбываецца і цяпер. Але краіна жыве. Што нам рабіць у гэтай сітуацыі? Тое, што можам рабіць і даваць прыклад іншым, – пісаць тэксты, выдаваць кнігі. Пракладваць уласны шлях да нацыянальнай ідэнтычнасці, і тады пры першай гістарычнай магчымасці ўсё зменіцца”.

**Мікалай Левертаў,**
**фота Марыны Серабраковай**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КАСТРЫЧНІК 2016 ГОДА

2 кастрычніка – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Мікола Дудчыц, мастак.

4 кастрычніка –40 гадоў таму, у 1976-м, памёр Юльян Сергіевіч, паэт, мастак.

4 кастрычніка – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр біскуп Чэслаў Сіповіч, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

6 кастрычніка – 140 гадоў таму, у 1876-м, нарадзіўся Ян Булгак, фотамастак, этнограф.

7 кастрычніка – 105 гадоў таму, у 1911-м, памерла Соф’я Трашчкоўская (Тшашчкоўская), паэтка.

8 кастрычніка – 115 гадоў таму, у 1901-м, нарадзілася Апалонія Савёнак (дзяв. Раткевіч), пісьменніца, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

8 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1991-м, памерла Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), пісьменніца, грамадска-культурны дзеяч.

9 кастрычніка – 100 гадоў таму, у 1916-м, нарадзіўся Віталь Кажан, вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

10 кастрычніка – 220 гадоў таму, у 1796-м, нарадзіўся Міхаіл Без-Карніловіч, гісторык, этнограф.

10 кастрычніка – 135 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Ян Тарчэўскі, грамадскі дзеяч.

10 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1936-м, памёр Часлаў Пяткевіч, этнограф.

13 кастрычніка – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Мікалай Шчакаціхін, мастацтвазнавец.

16 кастрычніка – 10 гадоў таму, у 2006-м, памёр Яўген Лугін, грамадска-палітычны дзеяч.

17 кастрычніка – 40 гадоў таму, у 1976-м, памёр Радаслаў Астроўскі, Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША.

18 кастрычніка – 420 гадоў таму, у 1596-м, у Брэсце падпісана царкоўная унія, абвешчаная ў царкве Св. Мікалая.

18 кастрычніка – 110 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Алесь Салагуб, паэт, публіцыст.

18 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1991-м, памёр Пятро Бітэль, пісьменнік, праваслаўны святар.

20 кастрычніка – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Валянцін Рамановіч, мастак.

21 кастрычніка – 140 гадоў таму, у 1876-м, нарадзіўся Сяргей Скандракоў, вучоны, краязнавец, публіцыст.

23 кастрычніка – 75 гадоў таму, у 1941-м, у савецкім канцлагеры забіты Васіль Шашалевіч. драматург.

23 кастрычніка – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр Якуб Міско, пісьменнік.

25 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1991-м, памёр Антось Галіна (сапр. Міхась Міцкевіч), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

29 кастрычніка – 10 гадоў таму, у2006-м, памёр Мікола Канаш, беларускі дзеяч.




**навіны**

# У АТАВЕ СУСТРЭЛІСЯ БЕЛАРУСЫ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Больш за шэсць дзесяцігоддзяў беларусы Паўночнай Амерыкі ладзяць свае традыцыйныя сустрэчы. Сёлетняя, 32-я Сустрэча, прысвечаная тэме "Дыяспара: нацыянальная свядомасць і развіццё грамадзянскай супольнасці і культуры", праходзіла з 3 па 5 верасня ў сталіцы Канады – Атаве. Арганізатарамі выступілі Згуртаванне беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска-Амерыканскае задзіночанне (БАЗА).

Форум прыцягнуў больш за сто ўдзельнікаў з розных куткоў паўночна-амерыканскага кантынента. Сустрэчу віталі прысутныя прадстаўнікі атаўскай гарадской рады і шэрагу няўрадавых арганізацый і суполак з ЗША і Канады, з якімі беларусы цесна супрацоўнічаюць. Прывітаньне да ўдзельнікаў выказала Прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Івонка Сурвілла. Вітаньні даслалі прэм'ер правінцыі Антарыё сп. Катлін Уінн і міністр фэдэральнага ураду Канады сп. Мелані Джолі, якая адзначыла, што "штодвухгадовыя сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі даюць магчымасць святкаваць асягненні беларускай спадчыны, паказаць беларускую культуру і выявіць дасягненні тых грамадзян нашых краінаў, што маюць беларускае паходжанне".

З дакладамі выступілі Паўліна Сурвілла (прафесар, Waverly University, Iowa) – "The Persistence of Memory and Formation of Identity: Migration and the Homeland in Belarusian Experience", і Галіна Туміловіч (доктар, Carleton University, Ottawa) – "Беларусь: ад ВКЛ да сусветнай глабалізацыі – якую спадчыну возьмем з сабою?".

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" таксама паўдзельнічала ў сустрэчы. Старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ніна Шыдлоўская ад імя Згуртавання звярнулася з вітаннем да ўдзельнікаў Сустрэчы, адзначыўшы, што "гэтая традыцыя ўжо больш за шэсцьдзесят гадоў працягвае збіраць разам розных людзей, тэрытарыяльна раз'яднаных з Радзімай і паміж сабой, але назаўжды злучаных любоўю да Беларусі, да беларускай культуры і мовы. Людзей, для якіх, як і для Згуртавання "Бацькаўшчына", найвялікшай каштоўнасцю ёсць свабодная, незалежная, дэмакратычная беларуская Беларусь". А кіраўніца ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская выступіла з дакладам "Нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў: узаемаўплывы працэсаў у дыяспары і Беларусі", у якім распавяла пра стан нацыянальнай ідэнтычнасці, важную ролю беларускай дыяспары. Яна адзначыла, што "працэсы ўзаемадзеяння нашай краіны і беларусаў замежжа маглі б ісці нашмат хутчэй і больш эфектыўна, калі б афіцыйная Беларусь і дыяспара мелі агульныя погляды на нацыянальнае будаўніцтва краіны. Але тым не менш нават у неспрыяльных умовах (а ў нашай гісторыі іх было багата) мы павінныя выкарыстоўваць усе наяўныя магчымасці для развіцця нашай краіны і адстойвання яе незалежнасці".

Цягам двух дзён ішоў абмен думкамі пра сённяшні стан і развіццё асяродкаў беларусаў у ЗША і Канадзе. Дыскусіі закранулі як пытанні надзеннага клопату арнанізацый, гэтак і праблемы, якія паўстаюць у дзейнасці суполак праз шматлікія змены і тэндэнцыі ў развіцці сённяшняга свету.

У прынятай рэзалюцыі зазначана незаменная роля роднай мовы ў справе захавання і развіцця нацыянальнай самасвядомасці і культуры нашых суродзічаў, што жывуць за мяжой. Таксама рэзалюцыя прапаноўвае шэраг канкрэтных мераў для ўмацавання і развіцця беларускіх асяродкаў, якія дзейнічаюць у Паўночнай Амерыцы.

Акрамя слухання дакладаў і ўдзелу ў дыскусіях, госці Сустрэчы паўдзельнічалі ў шэрагу імпрэзаў, сярод якіх былі паэтычныя чытанні, наведванні выставаў карцін, мастацкіх вырабаў і сувеніраў, экскурсія па гістарычных месцах, водная прагулка па рацэ Атаве, канцэрты мясцовых талентаў. А выступ беларускага барда Віктара Шалкевіча стаў падзеяй, што запомніцца ўдзельнікам сустрэчы ў Канадзе на доўгія гады.

**Паводле Дзмітрыя Эльяшэвіча**
**Фота Эліны Шарковай**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ 32-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Мы, прадстаўнікі беларускіх асяродкаў Паўночнай Амерыкі, удзельнікі 32-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі, абмеркаваўшы актуальныя пытанні стану беларускай нацыянальнай свядомасці, грамадзянскай супольнасці і культуры ў асяродках дыяспары і зыходзячы з пазіцыі аб культурным адзінстве беларускай нацыі сведчым наступнае:

- культурнае адзінства нацыі абазначае і прадугледжвае беларускую ідэнтычнасць паўсюдна, дзе жывуць беларусы (або людзі, якія ідэнтыфікуюць сябе беларусамі);
- захаванне беларускай ідэнтычнасці з'яўляецца свядомай нацыянальнай задачай кожнага беларуса ў Бацькаўшчыне і ў замежжы, што дае магчымасць захаваць беларускую культуру і ствараць беларускае сацыяльнае асяроддзе для яе развіцця ў эміграцыі;
- выклікі сучаснага свету нясуць пагрозу ўпадку культуры з прычыны таго, што агрэсіўныя супольнасці ў асобных краінах выкарыстоўваюць мову і культуру як сродак разбуральнай палітыкі і націску на мову і культуру краінаў і этнічных групаў, падвержаных агрэсіі і акупацыйнай палітыцы;
- негатыўныя працэсы сталага даўгагадовага абмежавання развіцця беларускай нацыянальнай культуры ў Бацькаўшчыне вядуць да незваротных вынікаў у развіцці нацыянальнай свядомасці беларусаў як на Радзіме, гэтак і у асяродках дыяспары.

Уважаем:

1. Беларускую мову непарушным падмуркам нацыянальнае культуры і шчытом перад разбуральнай агрэсіяй антыкультурных сілаў.
2. Зберажэнне і пашырэнне ўжывання беларускай мовы асноўным чыннікам беларускай салідарнасці ў свеце.
3. Беларускую нацыянальную асвету галоўным чыннікам умацавання нацыянальнай свядомасці беларусаў.
4. Пашырэнне беларускай нацыянальнай літаратурнай творчасці, навуковых даследаванняў і новых формаў заангажавання беларусаў у грамадскае, культурнае і рэлігійнае жыццё паўночнаамерыканскай беларускай дыяспары павінны быць шырока падтрыманы.

Падтрымліваем наступныя захады і прапануем асяродкам беларускага замежжа ў Паўночнай Амерыцы:

1. Засяродзіць увагу на яднанні беларусаў у замежжы на глебе беларускай культуры, мовы і традыцый, якія ляжаць у аснове будаўніцтва нацыі, не дапушчаючы падзялення беларусаў з розных падставаў і прычынаў.
2. Надалей прытрымлівацца ў сваёй дзейнасці прынцыпаў уключнасці, празрыстасці і дэмакратычнасці; трымаць высокі ўзровень узаемаадносін паміж сабой.
3. Спрыяць пашырэнню беларускай прысутнасці ў свеце праз беларускія асяродкі як у існуючых, так і новых формах, у тым ліку праз сучасныя сродкі масавай інфармацыі і камунікацыі.
4. Кантактаваць з кіраўніцтвам незалежных сродкаў масавай інфармацыі з просьбай асвятляць жыццё беларусаў Паўночнай Амерыкі ў больш поўнай меры.
5. Узмацніць абмен інфармацыяй паміж беларускімі асяродкамі ў Паўночнай Амерыцы.

Сведчачы сваю салідарнасць і падтрымку прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці, а таксама працаўнікам на ніве беларускай культуры, асветы ў Беларусі, заклікаем суродзічаў набліжаць разам светлую будучыню нашай вольнай Айчыны Беларусі.

**Атава, Канада**
**4 верасня 2016 года**

навіны

# ФІЛЬМ ПРА БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР ПЕРАМОГ НА КІНАФЕСТЫВАЛІ Ў КАНАДЗЕ

Дакументальны фільм “Песні старой Еўропы – старажытныя беларускія народныя песні”, зняты беларускай Вольгай Дземкай, якая ўжо больш за дзесяць гадоў жыве ў ЗША, стаў пераможцам міжнароднага кінафестывалю Creation International Film Festival (Канада).

Рэжысёр і прадзюсар фільма Вольга Дземка хоць нарадзілася і вырасла ў Мінску, але шмат часу бавіла ў палескай вёсачцы, дзе жылі баба з дзедам, і там закахалася ў беларускія народныя песні. Некалькі гадоў дзяўчына сама спявала ў фальклорным калектыве Guda, а перабраўшыся ў 2003 годзе ў амерыканскі Сіэтл, заснавала там уласны гурт архаічных беларускіх спеваў Volya. У ЗША беларуска скончыла Інстытут мастацтваў.

Каб зняць гэты фільм, дзяўчына праз краўдфандынгавую інтэрнэт-пляцоўку атрымала ўнёскі ад больш як паўтары сотні зацікаўленых, але іх не хапіла, і тады Вольга выдаткавала на праект усе сямейныя зберажэнні, а таксама ўзяла крэдыт у банку. “Гэты фільм і праект наогул – з тых, якія не рабіць немагчыма, бо часу застаецца ўсё меней”, – тлумачыла Вольга неабходнасць прыспешваць здымкі”.

У 2011 годзе дзяўчына здзейсніла этнаграфічную экспедыцыю па Гомельшчыне і Брэстчыне, да працы далучыліся кіраўнік этна-трыа “Троіца” Іван Кірчук, лідар гурта “Палац” Алег Хаменка, этнамузыколаг Тамара Варфаламеева, гісторык Сяргей Трацяк, шэраг беларускіх фолк-гуртоў, а таксама тэхнічныя і творчыя прадстаўнікі кінематографа з абедзвюх краін. Вынік – 60-хвілінны фільм, у якім гучаць 102 песні і музычныя кампазіцыі, з элементамі камп'ютарнай графікі і выкарыстаннем рэдкіх архіўных кадраў пачатку XX стагоддзя – быў прэзентаваны гэтым летам і атрымаў прыз міжнароднага кінафестывалю CIFF-2016 як найлепшы поўнаметражны дакументальны фільм.



Далей фільм працягне падарожнічаць па фестывалях, будзе прэзентаваны шырокай аўдыторыі праз тэлебачанне, а пазней будзе распаўсюджвацца для ўсіх ахвотных праз інтэрнэт – гледачы змогуць паглядзець яго бясплатна ці зрабіць грашовы ўнёсак любога памеру. На афіцыйным сайце belarusian-songs.com даступна ўся інфармацыя пра праект.

**Вікторыя Целяшук, “Звязда”**

навіны

# ЗЯНОН ПАЗНЯК ПРЭЗЕНТАВАЎ МАСТАЦКІ РАМАН

18 верасня ў Грамадскай зале Сабора БАПЦ у Брукліне (Нью-Ёрк, ЗША) адбылася прэзентацыя дзвюх новых кніг Зянона Пазняка.

Адна з іх “Незалежнасьць 25” апавядае пра дасягненні дзяржаўнай незалежнасці Беларусі ў 1991 г., каштоўнасці незалежнай дзяржавы і абставіны, якія павінна ўлічваць будучая вольная Беларусь.

Дзеянне другой кнігі, рамана “Палын-палын” пачынаецца ў 1930-х гадах на Віленшчыне і працягваецца ў 1940–1960-х у БССР. Паказана акупацыйная рэчаіснасць савецкага рэжыму, яго норавы і парадкі. У цэнтры сюжэта – людзі, якія шанавалі сваю годнасць і Бацькаўшчыну і змагаліся за яе волю і адраджэнне.

**“Наша Ніва”**

гутарка

# «БЕЛАРУСКАЯ МОВА ПРЫЦЯГВАЕ ЛЮДЗЕЙ НА СТАДЫЁНЫ»

Чаму беларускія футбольныя клубы пачалі масава пераходзіць на беларускую мову – распавядае заўзятар і грамадскі актывіст Ігар Случак.

За апошнія два гады беларускую мову пачалі ўжываць 6 з 16 клубаў вышэйшай лігі. Беларускую мову ўсё часцей выбіраюць заўзятары, на ёй каментуюць футбольныя матчы. Вялікая заслуга ў гэтым належыць заўзятарам і грамадскім актывістам. З гомельскім аматарам футболу, ініцыятарам кампаніі “Справаводства па-беларуску” і аўтарам блогу “Мова спартова” Ігарам Случаком размаўляе Аляксандр Папко.

**Аляксандр Папко: Раскажыце, калі ласка, як нарадзілася грамадзянская кампанія “Справаводства па-беларуску” і якіх вынікаў дасягнула?**

**Ігар Случак:** Калі я навучаўся ў Тартускім універсітэце ў Эстоніі, я пабываў на V З'ездзе беларусаў свету. Там на цудоўнай беларускай мове выступаў Стэфан Эрыксан, які быў амбасадарам Швецыі ў Беларусі. Тагачасны міністр культуры Павал Латушка, таксама выступіў на гэтым з'ездзе і заявіў, што плануе зрабіць сваё міністэрства цалкам беларускамоўным. Я падумаў: “Калі адно міністэрства можа быць беларускамоўным, то чаму не могуць астатнія?” Таму я пачаў персанальную грамадзянскую кампанію “Справаводства па-беларуску”. Я звяртаўся да міністэрстваў, вышэйшых навучальных установаў. У выніку ў тым ліку і маёй перапіскі ў закон унеслі норму аб тым, што адказы павінныя давацца на мове звароту. Такая норма прапісаная ва ўсіх цывілізаваных краінах, дзе ёсць шматмоўе – у Фінляндыі, Швейцарыі, Бельгіі.



**АП: Мы пабывалі на матчы футбольнага клубу “Гомель” з камандай “Дынама-Мінск”. На кашулях гульцоў прозвішчы напісаныя па-беларуску, на беларускай мове аформлены экран гомельскага стадыёну. Як сітуацыя выглядала яшчэ тры-чатыры гады таму?**

**ІС:** У 2010–2011 гадах увогуле не было беларускамоўных клубаў. У 2015 годзе беларускую мову пачалі выкарыстоўваць два клубы – “Гомель” і “Тарпеда-БелАз”. Цяпер беларускую мову выкарыстоўваюць 6 з 16 клубаў.

**АП: Гэта вынік вашых зваротаў да дырэктараў клубаў ці ўнутраная ініцыятыва?**

**ІС:** Я лічу, што гэта сумесная ініцыятыва – як мая, так і футбольных заўзятараў, якія самі першымі пачалі выкарыстоўваць беларускую мову. Бачачы запыт футбольных фанатаў, я пачаў звяртацца да футбольных клубаў. Гэта натуральны працэс вяртання да беларускасці. Я проста абгортваю яго ў афіцыйную абалонку.

**АП: Якія клубы найбольш актыўна пашыраюць беларускую культуру?**

**ІС:** “Тарпеда-Мінск”, “Тарпеда-БелАз”, ФК “Гомель”, “Дынама-Мінск”, “Крумкачы” і ФК “Нёман”. У мінулым годзе “Нёман” быў клубам, які выкарыстоўваў беларускую мову найменш, а цяпер стаў адным з самых беларускамоўных.

**АП: Калі вы пачыналі сваю перапіску з кіраўнікамі клубаў, ці былі непаразуменні, скандалы? Як тыя людзі, ад якіх вы патрабавалі пісаць надпісы і рабіць аб'явы па-беларуску, цяпер глядзяць на вас? Як яны з вамі размаўляюць?**

**ІС:** Спачатку бывалі супярэчлівыя адносіны, нярэдка было грэблівае стаўленне. Цяпер адносіны добрыя. Сітуацыя відавочна змяняецца ў лепшы бок.

**АП: На гомельскім стадыёне мы чулі дыктара, які на вельмі добрай беларускай мове аб'яўляў падзеі футбольнага сезону, а таксама ставіў беларускую рок-музыку. Што гэта за чалавек. Ці многа такіх дыктараў па ўсёй краіне?**

**ІС:** Гомельскі дыктар – гэта сапраўды выбітная асоба. Гэта, напэўна, першы ў Беларусі кандыдат тэхнічных навук, які працуе дыктарам на спартовых стадыёнах. Яго завуць Юры Крышнёў, ён загадчык кафедры прамысловай электронікі ў Гомельскім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце імя Паўла Сухога. З яго імпэту ў гомельскім клубе ідзе значная беларусізацыя.

**АП: Як на пераход клубу на беларускую мову рэагуюць звычайныя людзі, якія прыходзяць на стадыён?**

**ІС:** Я бачу толькі пазітыўную рэакцыю. Беларуская мова толькі прыцягвае людзей на стадыёны.

**АП: Што яшчэ трэба зрабіць, каб папулярызаваць беларускую мову ў сферы спорту? Дзе ёсць неапрацаваныя палі?**

**ІС:** Трэба папрацаваць у Магілёве, Берасці, Мікашэвічах... У некаторых мясцінах людзі чакаюць рэакцыі зверху. Магчыма, Беларускай федэрацыі футболу трэба выслаць ім нейкі ліст, і сказаць: “Не бойцеся, бо мы не баімся!” Асноўную інфармацыю аб спартовых падзеях Беларуская федэрацыя футболу апошнім часам падае толькі па-беларуску. З'явіўся брэнд нацыянальнай зборнай “Белыя крылы”, на форме з'явілася вышыванка. Паглядзіце на федэрацыю і зрабіце высновы!

**Размаўляў Аляксандр Папко, “Польскае радыё”**

**словы**

# СЛОВА ДА МАЛАДЫХ АД 90-ГАДОВАГА

Калі я быў падлеткам у маім Міры, гуляў на вуліцы "ў гузікі" або ў стракалку, я глядзеў на старэйшых людзей як на асобную катэгорыю, і мне ў галаву не прыходзіла, што некалі буду сам да яе належаць. А пазней праз усе дзесяціголдзі мяне інтрыгавала пытанне: як старыя людзі глядзяць на свет і пра што яны думаюць?



Мае спробы навесці гутарку на гэтую тэму са "старымі" запамінальных вынікаў не далі. У гэтай няўдачы ляжыць дадатковая прычына маіх цяпершаніх развагаў, бо мяркую, што сяго-таго з маладых сучаснікаў можа цікавіць тое самае пытанне.

Дык пра што я думаю?

Перш-наперш я думаю, што, калі чалавек пражыў дзевяць дзясяткаў і ўвесь час быў грамадска актыўным, дык ягоны абавязак падзяліцца з маладымі сваім досведам. Бо ў роспытах маладымі старэйшых сяды-тады задаецца пытанне: "А што вы лічыце памылкамі ў сваім жыцці? Што можна было зрабіць лепш?"

Дык што я мог зрабіць лепш? Якія былі мае памылкі?

Перад тым як адказаць на гэтыя пытанні, хачу зрабіць заўвагу пра ЧАС. Так, пра час. Маладым гэта важна пачуць. Рэч у тым, што жыццё вымяраецца інакш, чымся пра гэта думаецца – не днямі, месяцамі ці гадамі, а часам. Час – асноўная мерка жыцця. Час – галоўны жыццёвы рэсурс, і гэтым рэсурсам валодаеш ты. Практычныя амерыканцы праніклiва выказаліся пра час як пра грошы: "Time is money".

Вось жа запамятай: час – твой час – увесь падпарадкаваны табе. Ты – ягоны валадар. Гэта – твая крыніца творчай энергіі, ты яго выдаткоўваеш на тую ці іншую мэту. На больш карысную або менш карысную. Або на пустую.

Ёсць вялікая розніца ў тым, як на час глядзіцца ў маладосці і ў старасці. У маладосці бачыш перад сабой час пасечаным: хвіліны–гадзіны–дні–тыдні–месяцы–гады. Гэтая часавая трасянка спараджае ілюзію, што твайму часу няма канца. Час пры ягонай "пасечанасці" выглядае значна даўжэйшым, чымся ён выяўляецца на самой рэчы. У гэтай зманлівасці часу хаваецца небяспека маладым марнатравіць яго. Змарнаваныя адрэзкі часу, большыя й меншыя, найлепш відны з жыццёвага канца. У старасці час выглядае цэласным, глядзіш на яго як на суцэльную глыбу, або лепш: як на адзіную крыніцу нагодаў – выкарыстаных і нявыкарыстаных.

А цяпер пра мае памылкі, пра нявыкарыстаныя шанцы "зрабіць лепш".

Хоць мой дзед па бацьку, Сцяпан Марцінавіч Вільчыцкі, прывучаў мяне малога да чытання, з кнігамі, абагульняючы ўсё разам, я праводзіў замала часу, асабліва ў школьнай і сталай маладосці, калі памяць у чалавека найвастрэйшая. А наагул, чытанне праз цэлае жыццё вымагае дысцыпліны, вымагае карыстацца слоўнікамі. Слоўнікі ўзбагачаюць запас лексікі, і гэтак узмацняеш аналітычнае мысленне. Шкадую, што звычка такога чытання была ў мяне з дзіркамі. Шкадую, што калі ў 1950 г. у Бельгіі ў Лювенскім універсітэце апынуўся перад выбарам кірунку навучання, не пайшоў на філасофскі факультэт замест гістарычнага. Шкадую, што не здабыўся на вядзенне калі не дзённіка, дык хоць дробных нататак. Такія нататкі, як пабачыў, нават самыя кароткія, даюць незвычайны эфект аднаўлення памяці. Варта ўвесь час трымаць у галаве кітайскую прыказку: найслабейшы алавік мацнейшы за наймацнейшую памяць. Памяць заўсёды патрэбная: у дадатак да ўсіх сваіх карысных функцыяў у маладосці яна найлепшы антыдот альцгеймерскай хваробе.

Вельмі важна мець сабе праз усё жыццё "вялікую мэту". У катэгорыю "вялікіх мэтаў" я залічаю розныя дабрадзейныя акцыі, рэлігійныя й свецкія, у тым ліку патрыятычныя ўчынкі. Для мяне "вялікай мэтай" сталася беларуская нацыянальная справа, якую мы, маладыя, пераняли ад нашых школьных настаўнікаў і грамадскіх дзеячаў. Нацыянальная справа ў маім разуменні выглядае рамантыкай сувязі з мінулымі пакаленнямі нашага народу. Мы павінны адчувацца абавязанымі перад імі, бо карыстаемся каштоўнасцямі, якія яны стварылі: перш-наперш мовай, а таксама фальклорнымі й мастацкімі багаццямі (як цяпер вышыванкамі). У маім разуменні асоба, каб быць паўнавартаснай, павінна быць цэласнай, павінна адчуваць глыбінную сувязь з продкамі (сямейнымі й нацыянальнымі). Шчаслівы той, хто адчувае такую сувязь з Бацькаўшчынай, хто звязаны з ёй не толькі інтэлектам, але і інстынктам – як тыя скарынінскія птушкі, рыбы і пчолы, што ведаюць свае гнёзды, віры й вуллі. І бароняць іх.

Адчуванне сувязі з Бацькаўшчынай, з ейнай традыцыйнай культурай, незалежна ад таго, дзе жывеш – адно з найглыбейшых і найсаладзейшых пачуццяў. Пачуццё гэтае праз усё жыццё стабілізуе самаадчуванне й уплывае на выдаткі часу, на прыярытэты ў тваіх дзеяннях. А пад канец зямнога быту, калі асэнсоўваеш пражыты час, у цябе спакойна на душы, бо праз удзел у справах свайго народу чалавек становіцца неадлучнай частачкай ягонага адвечнага існавання.

**Верасень 2016,**
**Янка Запруднік**

**архіў**

# «ДЫК ПРАЧНІСЯ, НАРОД, АД НЯДОЛІ!»

Ксеракопія школьнага часопіса "Покліч" была перададзеная ў Беларускі інстытут літаратуры і мастацтва.

Часопіс "Покліч" Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Наваградку выдаваўся ў 1943 годзе. У даведніку С. Жумара згадваецца адзіная ксеракопія, што захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Цяпер ёсць і другая. Пра арыгінал звестак няма. Падобна, што гэта адзіны часопіс, што выдаваўся менавіта беларускай навучальнай установай у часы акупацыі.

Звестак пра Беларускую настаўніцкую семінарыю, што дзейнічала ў Наваградку ў 1942–1944 гадах, няшмат. Найбольш іх можна знайсці ва ўспамінах яе выкладчыкаў і вучняў: Барыса Рагулі, Паўла Навары, Льва Стагановіча. Сярод выкладчыкаў Беларускай настаўніцкай семінарыі былі пісьменнік Аляксей Анішчык, педагог Наталля Орса, пісьменніца Іна Рытар-Каханоўская, грамадскі дзеяч Філарэт Родзька.

Пра выданне ўласнага школьнага часопіса ва ўспамінах не згадваецца. Хто быў рэдактарам – невядома. У самім выданні гэта не пазначана, як і яго наклад. Невядома таксама, выйшаў толькі адзін нумар ці былі і іншыя.

На першай старонцы шыльда: "Покліч. Школьны часапіс Настаўніцкай сэмінарыі ў Наваградку. №1. Верасень. 1943 г.". Ніжэй ідзе тэкст "Ад рэдакцыі" падпісаны "Дырэкцыя сэмінарыі". У артыкуле пазначаецца, што "Покліч" стаў вынікам дзейнасці літаратурнага гуртка семінарыі. Больш пашыранае "Уступнае слова" належыць нямецкаму акруговаму камісару Вільгельму Траўбу. Яно падаецца ў беларускім перакладзе, аўтар якога не пазначаны. Рыторыка змагання беларусаў за незалежнасць тут наўпрост суседнічае з антысеміцкай прапагандай. Гэта фактычна адзіны такога кшталту матэрыял, хоць згадка вызвольнай ролі немцаў ёсць і ў невялікім непадпісаным звароце "Да моладзі".

Асноўную частку зместу "Покліча" складаюць вершы, проза, публіцыстычныя тэксты як вучняў, гэтак і настаўнікаў. Найбольш карысны ў інфармацыйным плане тэкст – "Хроніка". Пры адсутнасці звестак пра Наваградскую настаўніцкую семінарыю, прыведзены тут храналагічны аповед пра падзеі з жыцця навучальнай установы ёсць каштоўнай гістарычнай крыніцай. Тут ёсць паведамленне пра ўрачыстае адкрыццё Настаўніцкай семінарыі ў Наваградку 19 студзеня 1943-га ў залі Беларускага Народнага Дому з удзелам акруговага школьнага інспектара Аляксандра Орсы ды акруговага камісара Вільгельма Траўба, вучняў і настаўнікаў. Далей ідуць кароткія зацемкі пра сяброўскія вечары, "красамоўныя" конкурсы, спартовыя спаборніцтвы, святкаванні 25 сакавіка, 1 мая, канцэрты, матуральныя экзамены, выставу. Вынікае, што мерапрыемствы ладзіліся ў семінарыі штотыдзень. Апісаныя падзеі ўкладаюцца ў прамежак студзеня–ліпеня 1943 года.

Згодна з успамінамі Паўла Навары, у 1943 годзе навучэнцы семінарыі актыўна далучыліся да шэрагаў СБМ,


ПОКЛІЧ
ШКОЛЬНЫ ЧАСАПІС
№1
1943
БЕЛАРУСКАЯ НАСТАЎНІЦКАЯ СЭМІНАРЫЯ Ў НАВАГРАДКУ

шмат хлопцаў пайшлі ў афіцэрскую школу БКА. Некаторыя пазней апынуліся на эміграцыі. Таксама на чужыну выехалі і настаўнікі Іна Рытар, Наталля Орса, Барыс Рагуля, Філарэт Родзька. Менавіта нехта з тых, хто выехаў на Захад, і захаваў у сямейным архіве часопіс "Покліч", копія якога была перададзеная ў ньюёркскі Беларускі інстытут навукі і мастацтва і пазней трапіла ў Мінск.

**Наталля Гардзіенка, "Новы Час"**

**Надрукавана ў скароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**

навіны

# МОРА РАДАСЦІ НА ПРЭЗЕНТАЦЫІ «ВОЗЕРА РАДАСЦІ»

Раман "Возера радасці" з'явіўся ў продажы яшчэ ўлетку, таму вечарына, арганізаваная кампаніяй "Будзьма беларусамі!" 27 верасня ў Галерэі TUT.BY, нагадвала сустрэчу кніжнага клуба: наведнікі дзяліліся ўражаннямі і эмоцыямі ад прачытання кнігі.

Дыхтоўны канферанс прадэманстраваў Усевалад Сцебурака, музычнае аздабленне вечара забяспечыў гурт "VuRaj". Вечарына была ўмоўна падзелена на дзве часткі: спачатку прамаўлялі калегі, крытыкі і прыхільнікі Марціновіча, а пасля ён сам адказваў на пытанні запоўненай залы.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч выказаў пажаданне, каб вядомых аўтараў новай фармацыі было як мага болей, а папулярызацыя актуальнай літаратуры набыла прафесійны падыход.

Выступ культуролага Максіма Жбанкова можна назваць самым уражлівым: усе былі ўзрушаныя, хоць мала хто мог паўтарыць хоць сказ. Культуролаг прызнаўся, што насамрэч любіць Марціновіча, хоць у прамове гучалі і вострыя словы.

Барыс Пастэрнак, у выдавецтве якога кніга сёлета выйшла па-руску, паведаміў, што раман вылучаны на "Рускую прэмію".

Абраныя кавалкі зачыталі перакладчык кнігі Віталь Рыжкоў і лёгкаатлетка Аліна Талай. Аліна выбрала інтымную і кранальную замалёўку кароткай сустрэчы герояў, а Віталь агучыў эпізод з тэлешоў – з мацюкамі ды гумарам.



Яўген Ерчак

Калі дайшоў час да размовы аўтара з залай, людзі не маглі ўтаймавацца ажно да самай аўтограф-сесіі і працягвалі пытаць Марціновіча ўжо сам-насам яшчэ гадзіну. Чарга па аўтографы расцягнулася праз усю галерэю, што дазваляе крытыкаваць думку пра малую запатрабаванасць беларускай літаратуры.

**Паводле Марыі Грыц, "Будзьма беларусамі!"**

навіны

# БЕЛАРУСАМ АРМІІ ГЕНЕРАЛА АНДЭРСА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Вечарам 1 верасня ў Мінску, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстава "Беларусы ў II Польскім корпусе. Невядомыя старонкі Другой сусветнай вайны".

У экспазіцыі прадстаўлены гісторыі нашых землякоў – ураджэнцаў Заходняй Беларусі, якія 77 гадоў таму – 1 верасня 1939 года сустрэлі Другую сусветную вайну ў Войску Польскім, затым апынуліся спачатку ў савецкім палоне, потым у ГУЛАГУ і, урэшце, у II Польскім корпусе генерал-лейтэнанта Уладзіслава Андэрса.

Як адзначыла на адкрыцці выставы дачка камандзіра корпуса, сенатарка, упаўнаважаная ў пытаннях міжнароднага дыялогу канцылярыі старшыні Рады міністраў Польшчы Ганна Марыя Андэрс, менавіта армія Андэрса стала месцам паратунку, новым домам і новай сям'ёй для палонных жаўнераў і афіцэраў Войска Польскага, закратаваных у савецкім ГУЛАГу.

Створаны ў другой палове 1941 года на Урале II Польскі корпус праз Іран, Ірак і Палесціну быў перакінуты ў Паўночную Афрыку, дзе ўвайшоў у склад брытанскіх войскаў і вызваляў Італію ў складзе 8 брытанскай арміі. У жорсткай бітве пад кляштарам Монтэ-Касіна загінулі 4199 жаўнераў і афіцэраў корпусу, у тым ліку 177 ураджэнцаў Беларусі. Сотні нашых землякоў адзначаны польскімі і брытанскім баявымі ўзнагародамі, прычым прозвішчы амаль 125 з іх вядомыя. А ўраджэнец Гродна, падпаручнік 4 танкавага палку "Скарпіёны" Лявон Федарук за гераізм у баях на ўзбярэжжы Адрыятыкі ўшанаваны найвышэйшым польскім вайсковым ордэнам "Віртуці Мілітары".

У адкрыцці выставы ўдзельнічалі амбасадар Польшчы ў Беларусі Канрад Паўлік, дыпламаты, прадстаўнікі міністэрстваў замежных справаў і культуры Беларусі, сваякі беларусаў з II Польскага корпусу.

Вядомы беларускі грамадскі дзеяч Уладзімір Мацкевіч распавёў пра лёсы двух сваіх дзядоў, якія змагаліся супраць нацызму ў арміі Андэрса:


Паўла Аксіновіча

**Дачка Уладзіслава Андэрса, сенатарка, упаўнаважаная ў пытаннях міжнароднага дыялогу канцылярыі старшыні Рады міністраў Польшчы Ганна Марыя Андэрс.**

"Дзед па бацьку Кас'ян Мацкевіч, сын Тодара, нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Машталеры пад Скідалем у сям'і земляробаў. Тэрміновую вайсковую службу Карп Мацкевіч праходзіў у 1921–1922 гадах у палку стральцоў пад Гродна. Дзед па маці Карп Лазовік, 1909 года нараджэння, тэрміновую вайсковую службу праходзіў ва ўланскім палку ў Сувалках. Менавіта гэты полк праславіўся тым, што ў верасні 1939-га з шаблямі нагала атакаваў нямецкія танкі. Абодва дзяды на пачатку Другой сусветнай вайны трапілі ў савецкі палон пад Роўна на Украіне, а адтуль – у лагер ГУЛАГу ў Комі АССР. Карп у Запарожжы збег з палону, каб вярнуцца на Бацькаўшчыну, але яго хутка злавілі і закратавалі. Пакуль дзеда шукалі, арыштавалі і выслалі ў Казахстан усю ягоную сям'ю – жонку, дачку – маю маці, якой тады было толькі сем гадоў, і двух яе малодшых братоў – пяці і трох гадоў. Выратаваў дзядоў з ГУЛАГу запіс у армію Андэрса, з якой яны прайшлі ўвесь баявы шлях, за што мелі баявыя ўзнагароды. Напрыканцы 1940-х гадоў з Заходняй Еўропы яны вярнуліся ў савецкую Беларусь, адкуль у 1951-м зноў трапілі ў ГУЛАГ. Падчас хрушчоўскай адлігі дзядоў з лагеру выслалі ў горад Чарамхова Іркуцкай вобласці Расіі, дзе ў 1956 годзе я і нарадзіўся. У 1958-м дзядам вярнулі грамадзянскія правы, але яны вырашылі застацца ў Сібіры. Кас'ян і Карп вызнавалі сябе беларусамі і адмовіліся пераязджаць у Польшчу, хоць мелі на гэта права як вайскоўцы арміі Андэрса".

Ініцыявалі выставу амбасада Польшчы ў Беларусі і вядомы беларускі даследчык мінулага Заходняй Беларусі, кандыдат гістарычных навук Ігар Мельнікаў. Выстава з'яўляецца чарговым крокам у падрыхтоўцы доктарскай дысертацыі, над якой працуе Ігар Мельнікаў. У верасні адбудзецца прэзентацыя новай кніжкі даследчыка "Заходнебеларуская Атлантыда паміж Варшавай і Масквой", гісторык плануе выдаць фотаальбом пра беларусаў арміі Андэрса і дзве выставы пра паўсядзённае жыццё беларусаў у міжваеннай Заходняй Беларусі.

**Паводле Марата Гаравога, "Новы Час"**

# ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў кастрычніку:
Антона Астаповіча (Беларусь),
Валерыя Герасімава (Беларусь),
Валерыя Казакова (Расія),
Юрася Меляшкевіча (Беларусь),
Сяргея Харэўскага (Беларусь).

Жадаем шаноўным імяннінікам добрага здароўя, творчага натхнення, доўгіх гадоў жыцця і поспехаў у працы.

навіны

# ПАЧАТАК НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА Ў ЛІТВЕ І ПОЛЬШЧЫ

## Віленская гімназія імя Францыска Скарыны

1 верасня прагучаў першы званок для дваццаці першакласнікаў. Пераступілі школьны парог і дваццаць дзяцей з падрыхтоўчага класа.

Свята пачатку навучальнага года прайшло на школьным двары. Дырэктар гімназіі Дзіяна Стахновіч павіншавала прысутных. Цёплыя словы прагучалі і з вуснаў гасцей гімназіі: Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Аляксандра Караля, загадчыцы аддзела сувязей з нацыянальнымі суполкамі Дэпартамента нацыянальных меншасцей пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі Расы Палюкене, члена савета Віленскай мэрыі Эдзіты Тамашунайце, старасты Каралінішскай сенюніі Віялеты Гедмінайце, рэктара касцёла Св. Варфаламея айца Арыюша Малыскі.

Аляксандр Кароль уручыў першакласнікам рукзакі з усімі неабходнымі вучням пісьмовымі прыладамі.

## Дзень ведаў на Беласточчыне

Святой літургіяй пачаўся навучальны год у Чыжах (Польшча). У цырымоніі, акрамя вучняў, настаўнікаў і дырэктара школы ўдзельнічаў войт гміны. Комплекс школ у Чыжах – гэта пляцоўка, дзе ўсе вучні удзельнічаюць у занятках па беларускай мове.

Удзел у занятках па беларускай мове – школы у Чыжах. Па словах дырэктара Міраслава Пяткевіча, гэта адна з галоўных адукацыйных канцэпцый школы.



skorinosgimnazija.lt

Усяго ж у на Беласточчыне беларускую мову вывучае больш за тры тысячы вучняў. Найбольш – у школе імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім, у гайнаўскім і бельскім ліцэях.

У прыватнай пачатковай школе святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку беларускую мову вывучаюць амаль 130 вучняў.

**Паводле "Беларускага Радыё Рацыя", Віленскай гімназіі імя Францыска Скарыны**

навіны

# ВЕРАСЕНЬ ЗА МЯЖОЙ

## У Швейцарыі правялі беларускую дыктоўку

Асацыяцыя беларусаў Швейцарыі зладзіла беларускую нацыянальную дыктоўку ў беларускай амбасадзе ў першую нядзелю верасня. Пісалі верш Рыгора Барадуліна "Чалавек не ўзнікае так". Сакратар асацыяцыі Вольга Крук лічыць, што дыктоўка – гэта нагода падтрымаць еднасць беларусаў.

## Выстава карцін Вэлты Лоцэ

8 верасня ў Даўгаўпілсе (Латвія) ў Палацы культуры адбылося адкрыццё юбілейнай выставы карцін Вэлты Лоцэ пад назвай "Мой свет для вас!".

Імя Вэлты Лоцэ добра вядома ў Даўгаўпілсе і за яе межамі. Карціны выстаўляюцца ў Латвіі, Літве, Вялікабрытаніі. Таксама мастачка спявае ў беларускім вакальным ансамблі "Спадчына", праводзіць дабрачынныя майстар-класы ў сацыяльных культурных установах. У 2014 годзе па выніках конкурсу школьных сачыненняў пра лепшых людзей горада, Вэлта Лоцэ была ўганараваная тытулам "Гонар Даўгаўпілса".

Паэт і выканаўца Анатоль Галер прачытаў віншаванне ў вершах. Віншаванне-песню Вэлце прысвяціў Валерый Кацегаў, з якім яны разам спяваюць у ансамблі "Спадчына" і выступаюць дуэтам. Пад шчодрыя апладысменты прысутных яны разам выканалі Песню "Лілія".

Работы Вэлты Лоцэ натхнілі жыхарку Даўгаўпілса з беларускімі каранямі Еўфрасінню прадставіць на суд гледачоў свае карціны, і ў снежні Цэнтр беларускай культуры адкрые гэтаму свету новае імя.

## У Латгаліі стартаваў праект "Беларускі ручнік"

10 верасня ў пасёлку Асунэ Дагдскага краю (Латвія) адбылося яркае мерапрыемства "Беларускія ручнікі", якое адкрыла праект Дагдскага беларускага таварыства "Вербіца", які атрымаў на конкурсе праектаў падтрымку Міністэрства культуры і Паўднёва-Латгальскага цэнтра падтрымкі недзяржаўных грамадскіх арганізацый. Адным з партнёраў праекта з'яўляецца даўгаўпілскі Цэнтр беларускай культуры.

У "Народным доме" пасёлка адбыліся творчыя майстэрні. Гасцей вітала старшыня таварыства "Вербіца" Тацццяна Гагалінская.

Лектарам на семінары выступіла кіраўніца Екабпілскага беларускага таварыства "Спатканне" Валянціна Даршчонак. Яна расказала пра традыцыйныя беларускія ручнікі, якія гаспадыні ткалі да кожнага абрадавага свята, ад нараджэння дзіцяці да пахавання. Кожнай пабываўшай дзеі адпавядаў свой ручнік пэўнага памеру з адмысловым арнаментам.

Займальны аповед суправаджаўся дэманстрацыяй ручнікоў і песнямі ансамбля "Завіруха".

На семінары адбылася ўрачыстая перадача ручніка, які будуць вышываць удзельнікі праекта, ад беларусаў Дагды беларусам Даўгаўпілса. Праз месяц ён адправіцца далей па Латгаліі.

А затым удзельнікі праекта далі вялікі канцэрт каля Асунскага сельскага савета. Выступілі танцавальны гурт "Бальзам душы" Асунскага народнага дома, ансамбль "Вярба" Дагдскага беларускага таварыства, народная студыя з Эзэрніекаў, танцавальны ансамбль "Лянок" і ансамбль "Купалінка" даўгаўпілскага Цэнтра беларускай культуры, ансамбль "Аколіца" Дагдскага беларускага таварыства, ансамбль "Завіруха" Екабпілскага беларускага таварыства. Гледачы ўзнагародзілі самадзейных артыстаў шчодрымі апладысментамі.

## "Крывія" запрашае да супрацы

Маладыя беларусы ў Вільні аб'ядналіся ў асацыяцыю "Крывія", каб разам рабіць культурніцкія святы і адзначаць гістарычныя даты. Узрост сяброў арганізацыі да 30 год і яны шчыльна супрацоўнічаюць з Таварыствам Беларускай Культуры ў Вільні. Разам яны прымалі ўдзел у вялікім міжкультурным фэсце ў Вільні пад назвай "Кірмаш Народаў".

## Фарбы з Бацькаўшчыны

У Клайпедзе (Літва), у Доме абшчын Палаца культуры рыбакоў, прайшла выстава "Малююць дзеці Беларусі" – адзін з праектаў Дзён беларускай культуры ў Літве. Малюнкі дасылаліся на Міжнародны конкурс "Славянская крыніца", які ладзіўся Вільнюскай і Літоўскай епархіяй, таварыствам хрысціянскай асветы "Слово", Літоўскім мастацкім музеем і Клайпедскай гімназіяй "Жялякалне". З больш як 300 дасланых для выставы былі адабраны лепшыя сорак работ. Ідэя конкурсу – дапамагчы дзецям з розных куткоў свету больш даведацца пра свае нацыянальныя карані і пазнаёміцца з разнастайнасцю культур на планеце.

На адкрыцці выставы Ганаровы консул Беларусі ў Клайпедзе Мікалай Логвін падзякаваў арганізатарам за аказаны яму давер адкрыць цыкл экспазіцый і адзначыў, што аўтары найбольш адметных малюнкаў атрымаюць прызы і падарункі ад Беларускай абшчыны Клайпеды "Крыніца".

Перад наведнікамі выступілі дзіцячы ансамбль беларускай песні "Верасок" (кіраўніцы Валянціна Снігур ды Ірына Сімачова) і ансамбль беларускага танцу "Крынічанька" (кіраўніца Алена Барцова).

## Фотавыстава партрэтаў беларусаў у Варшаве

Варшаўская школа фатаграфіі Саюза польскіх мастакоў-фатографаў ладзіць выставу для выпускнікоў чарговага года. Сярод прадстаўленых прац быў і набор партрэтаў варшаўскіх беларусаў, выкананы Катажынай Даргель. Катажына зацікавілася Беларуссю тры гады назад, калі ўпершыню падарожнічала на ўсход ад Бугу: "Тады я фатаграфавала Палессе і яго жыхароў, а цяпер знайшла ў Варшаве беларусаў, якія не страцілі сувязі з Радзімай і ўласнай тоеснасці". На выставу прыходзяць і самі героі гэтых фотаздымкаў.

Катажына Даргель не прыпыняе працы і працягвае рабіць фотапартрэты актыўных свядомых беларусаў.

## У Бельску прайшоў VIII з'езд белліцэя

Выпускнікі Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча сустрэліся з даўно не бачанымі сябрамі. Былыя вучні наведалі магілы сваіх настаўнікаў і сяброў, якіх ужо не стала сярод жывых.

На афіцыйнай частцы з'езду, гучалі прамовы цяперашняга і былога дырэктараў і прадстаўнікоў мясцовых уладаў.

За 72 гады існавання ў бельскім белліцэі вучылася больш за 5700 чалавек. З'езды выпускнікоў адбываюцца ў школе ад 1974 года.

**Паводле: ПД, "Радыё Свабода"; Жана Раманоўская, Цэнтр беларускай культуры (Даўгаўпілс, Латвія); Наталля Ляяўскене-Карнілава (Клайпеда, Літва); Міхал Сцепанюк**

**навіны "Будзьма!"**

## «БУДЗЬМА ПАМЯТАЦЬ!» – НОВЫ ПРАЕКТ АД «БУДЗЬМА!»

У наступным годзе ў Беларусі будуць адзначаць сумную гадавіну – 80 гадоў піку вялікага тэрору 1937 года, калі былі здзейсненыя найбольш масавыя рэпрэсіі.

Агулам у СССР рэпрэсіі, у тым ліку ў Беларусі, ішлі хвалямі: ад 1917 года і да смерці Сталіна яны то сціхалі, то мацнелі, але практычна не спыняліся, а бліжэй да 1930-х набылі сістэмны характар. Апагей рэпрэсій прыпаў на 1937–1938 гг. Паводле розных ацэнак, у Беларусі пацярпелі ад 625 тысяч да 1,5 мільёна жыхароў. Была вынішчаная нацыянальная інтэлігенцыя.

Памяць пра многія падзеі сціраецца, месцы расстрэлаў зарастаюць травой, а будынкі набываюць сучасны выгляд і нічым не нагадваюць пра трагічныя падзеі тых часоў. Практычна па ўсёй нашай краіне раскіданыя непрыкметныя цяпер мясціны, дзе прыводзіліся ў выкананне прысуды "троек", а несправядлівая абвінавачаныя знаходзілі свой спачын. Пра іх важна ведаць і памятаць, каб трагедыя, што нанесла непапраўную шкоду беларускаму народу, не паўтарылася.




Новы мультымедыйны праект кампаніі "Будзьма беларусамі!", ініцыятарам і каардынатарам якога з'яўляецца ЗБС "Бацькаўшчына" дасць магчымасць з іншага ракурсу паглядзець на быццам добра вядомыя Бабруйск, Слуцк, Вілейку, Жлобін ды іншыя гарады і вёскі Беларусі, асабліва тыя, што ўжо ў канцы 1920-х пачалі падвяргацца прымусовай калектывізацыі. Матэрыялы праекта распавядуць пра некаторыя малавядомыя мясціны нашай краіны, якіх не абмінулі рэпрэсіі: як пра месцы расстрэлаў, так і пра турмы, дзе ўтрымлівалі і дапытвалі рэпрэсаваных. Перад чытачамі паўстануць гісторыі простых людзей, якія сталі ахвярамі жорсткай эпохі.

Тэксты падрыхтаваў калумніст budzma.by Дзяніс Пыхалаў, а іх мастацкае аздабленне зрабіў вядомы фатограф Андрэй Лянкевіч.

Будзьма памятаць!

## ПАМЁР ЮРЫЙ ХАДЫКА



11 верасня ад нас пайшоў Юрый Хадыка, прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук і аўтарытэтны знаўца царкоўнага жывапісу, шматгадовы сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Яму было 78 гадоў. Апошнія месяцы жыў у штаце Каларада ў свайго сына Канстанціна, які і паведаміў сумную навіну.

У 1969 годзе арганізаваў у АН БССР семінар па вывучэнні старажытнабеларускага мастацтва, браў удзел у зборы матэрыялаў і напісанні "Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі".

У 1975 годзе ўзначаліў секцыю аптычна-электронных сродкаў выведкі ў камісіі АН СССР па распрацоўцы прагнозу развіцця ўзбраенняў.

У 1979 годзе адкрыў пры АН БССР Музей старажытнабеларускай культуры.

З 1988 па 2007 год быў намеснікам старшыні БНФ.

З 1997 па 2000 год уваходзіў у назіральную раду Беларускага Хельсінскага камітэта.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сям'і і сябрам Юрыя Хадыкі. Вечная і светлая яму памяць!

**навіны**

## З УСЯГО СВЕТУ – НА САВЕТ

На пачатку верасня ў Мінску прайшло другое пасяджэнне Кансультацыйнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных справаў.

Сёлета ў ім бралі ўдзел 33 прадстаўнікі беларускай дыяспары з 20 краін. Былі госці з Германіі ды Польшчы, Казахстана і Украіны, Малдовы і Расіі, Літвы і Латвіі, Эстоніі, ЗША, а таксама Чэхіі, Францыі, Італіі, Іспаніі ды іншых краін.

Старшыня Кансультатыўнага савета, Міністр замежных спраў Уладзімір Макей зазначыў, што станоўчым вынікам работы МЗС за мінулы год стала прыняцце Урадам Беларусі падпраграмы "Беларусы ў свеце" Дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2016–2020 гады, і дзякуючы гэтаму ўпершыню стала магчыма фінансава падтрымліваць мерапрыемствы арганізацый суайчыннікаў за мяжой. Такім чынам ужо былі падтрыманы імпрэзы ў Аргенціне і Эстоніі, якія праводзіліся сумесна з беларускімі пасольствамі. Казаў глава МЗС і пра ўдзел прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў пятым Усебеларускім народным сходзе, пра высокі ўзровень ведаў, якія прадэманстравалі на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове і літаратуры вучні віленскай Беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны, а таксама пра навучанне беларусаў замежжа ў Міжнароднай летняй школе беларусістыкі, якая праводзілася Рэспубліканскім інстытутам вышэйшай школы ў Мінску. І што ў адной са школ у амерыканскім горадзе Сакрамэнта адкрылі клас беларускай мовы і літаратуры. Дзякуючы сумеснай рабоце Пасольства Беларусі ў Літве і Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы была выдзелена спонсарская дапамога літоўскіх кампаній для Згуртавання на 2015 і 2016 гады. Мэрыя Клайпеды на бязвыплатных умовах перадала суполцы "Крыніца" ў карыстанне асобнае памяшканне.

На адкрыцці пасяджэння Уладзімір Макей заклікаў беларусаў замежжа садзейнічаць захаванню суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Таксама ён падзякаваў тым выхадцам з Беларусі, хто садзейнічае арганізацыі паставак прадукцыі беларускай вытворчасці за мяжу.

Прагучала прапанова аб стварэнні ў Мінску "Беларускага дома" – культурнага цэнтра, з музеем беларускага замежжа, месцам для арганізацый, якія займаюцца развіццём супрацоўніцтва з беларусамі замежжа, таварыствамі дружбы і арганізацыямі замежных студэнтаў, якія навучаліся ў Беларусі. Марыцца і пра залы для правядзення сустрэч... Уладзімір Макей папрасіў прадстаўнікоў бізнесу і беларускія суполкі разгледзець магчымасць фінансавага ўдзелу ў рэалізацыі такога праекта.

Казаў Міністр і аб правядзенні ў наступным годзе 7-га З'езда беларусаў свету, арганізатарам якога традыцыйна выступае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына". А для таго, каб пра беларусаў замежжа больш даведваліся жыхары Беларусі, Уладзімір Макей запрасіў супляменнікаў часцей бываць на Радзіме, прывозіць з сабой творчыя калектывы, удзельнічаць у фэстах, святах, якіх штогод нямала праходзіць у краіне. Напрыклад, на свяце Дзень беларускага пісьменства-2017 у Полацку на асобным стэндзе можна прадставіць кніжныя навінкі ад беларускіх паэтаў і празаікаў замежжа.

**Паводле Кацярыны Мядзведскай, "Голас Радзімы"**

## ПАМЁР ШЫМОН ПЕРЭС

Ветэран ізраільскай палітыкі, экс-прэзідэнт Шымон Перэс памёр на 94-м годзе жыцця.

Як паведамлялі крыніцы ў ягоным атачэнні, стан 93-гадовага Перэса рэзка пагоршыўся на гэтым тыдні – пасля перанесенага раней у гэтым месяцы інсульту. 13 верасня ён быў дастаўлены ў бальніцу недалёка ад Тэль-Авіва. З гэтага моманту Перэс знаходзіўся ў стане штучнай комы, а таксама быў падлучаны да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх.

Шымон Перэс займаў амаль усе галоўныя дзяржаўныя пасады ў Ізраілі: ён адпрацаваў два тэрміны на пасадзе прэм'ер-міністра, а таксама некалькі разоў узначальваў міністэрства абароны Ізраіля, міністэрства фінансаў, міністэрства сувязі, МЗС, МУС і іншыя ведамствы. З 2007 па 2014 гады Перэс займаў пасаду прэзідэнта краіны.

У 1994 годзе ён быў ганараваны Нобелеўскай прэміяй міру – разам з прэм'ер-міністрам Іцхакам Рабінам і палесцінскім лідарам Ясірам Арафатам – за ролю ў мірных перамовах у Осла, якія паклалі пачатак працэсу перадачы грамадзянскай улады Палесцінскай аўтаноміі.

Шымон Перэс нарадзіўся 2 жніўня 1923 г. у беларускім Вішневе. У 1934 г. эміграваў у Палесціну.

"Нічога не падае з неба. Мы ў Ізраілі вельмі шмат працавалі. Што ў гэтым дрэннага? Не ведаю... Людзі ідуць у адпачынак – гэта пустая трата часу. Мне ўжо 90, і я ніколі не быў у адпачынку", – расказваў пра сябе Перэс.

**"Наша Ніва" паводле "BBC"**

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (172), верасень 2016
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27